*Афіша*

# Прынц Гамлет і князь Вітаўт

## Тэатры

Новую сцэнічную версію бессмяротнага «Гамлета» зусім нядаўна паставіў у Рускім тэатры вядомы рэжысёр Барыс Луцэнка. «Трагічную аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага», прэм'ера якой адбылася месяц таму, можна пабачыць 22 і 23 студзеня. У нядзелю, 24 студзеня, у Рускім тэатры пройдуць дзіцячая імпрэза «Тамніцы чароўнага гарышча» (раніца), «Свабодны шлюб» (вечар) і Вечар габрэйскага анекдота (Малая сцэна). 26-га на Малой сцэне Рускага тэатра пройдзе «Вячэра», на Вялікай сцэне 27-га – «Хто твой каханак, Жазэфа?», а 28-га – «Ад'ютант-Ша Яго Вялікасці».

Тым часам у Тэатры імя Купалы публіку чакае, так бы мовіць, беларускі нацыянальны варыянт «Гамлета» – гістарычная драма «Князь Вітаўт». Гэтую пастаноўку можна пабачыць 22 і 23 студзеня а 19-й гадзіне, а таксама 24-га ў 11:30 і ў 19:00. 27 і 28 студзеня ў Тэатры Янкі Купалы пройдзе «Ідылія». Малая сцэна Купалаўскага тэатра 25 студзеня запрашае на імпрэзу «Лэдзі Кронкі і мышы» (пачатак у 19:30).

На «Вольную сцэну» накіруюцца 22 студзеня гледачы, якія жадаюць убачыць праблемы сучаснага жыцця ў п'есе «Развітанне з радзімай». Таксама ў тэатры-лабараторыі «Вольная сцэна» пройдзе «Дзіця з Батлеема» (24 студзеня). А па суседстве, у Маладзёжным тэатры, 23 студзеня вы пабачыце «Сакрэт Шахразады», 24-га – «Два пінгвіны» (гэта казка, і час яе паказу зусім дзіцячы – 11:00 і 13:00). 26 студзеня Маладзёжны тэатр распавядзе гісторыю жыцця Мэрылін Манро ў імпрэзе «Я хачу быць каханай», 27-га тут пройдзе «Тойбеле і яе дэман», 28-га – «Хітрыкі Скапэна».

Багаты рэпертуар класікі і сучасных твораў у музычных тэатрах сталіцы. Тэатр оперы і балета 22 студзеня пакажа балет «Страсці (Рагнеда)», 23-га – оперу «Травіята», 24-га раніцай пройдзе балет для дзяцей «Чыпаліна», увечары – опера «Аіда». 27 студзеня публіку чакае балет «Спартак», а 28-га адбудзецца оперная вечарына «О, Моцарт, Моцарт!» (у праграме – арыі і фрагменты з моцартаўскіх опер, а таксама кароткая опера Рымскага-Корсакава «Моцарт і Сальеры»). Тэатр музычнай камедыі запрашае 22-га на мюзікл «Цалуй мяне, Кэт!», 23-га пройдзе «Дарагая Памэла», 24-га – «Залатое кураня» (раніца) і балет «Дон Кіхот» (вечар), а сярэдзіна наступнага тыдня належыць класічным аперэтам – 27-га «Цыганскі барон», 28-га – «Капялюш Напалеона».

## Класічная музыка

У Канцэртнай зале філармоніі 23 студзеня а 16-й гадзіне адбудзецца абанементны канцэрт для малодшых школьнікаў, на якім музыказнаўца А.Парэцкі пазнаёміць дзетак з лёсам і творамі Фрэдэрыка Шапэна. У гэты ж дзень вечарам (19:00) у філармоніі прагучыць праграма з твораў Дэбюсі, Пракоф'ева і Стравінскага, выканаўца – Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, дырыжор Аляксандр Вітлін (Германія), сола на скрыпцы – Лідзія Дабржынец.

24 студзеня самых маленькіх слухачоў разам з бацькамі філармонія запрашае ў госці да духавых інструментаў, пачатак канцэрта-гутаркі а 16-й гадзіне. 26-га адбудзецца канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі, які пад кіраўніцтвам дырыжора Дзмітрыя Зубава (Расія) выканае творы класічнай і сучаснай камернай музыкі. Маладыя піяністы, навучэнцы Рэспубліканскага музычнага каледжа В.Стахіевіч і Ц.Шчарбакоў 27 студзеня выступяць у Канцэртнай зале разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі. У праграме – Рахманінаў і Шапэн.

У Зале камернай музыкі пройдуць канцэрты з цыкла «Настаўнікі і вучні», 22 студзеня тут выступяць выхаванцы Л.Ластаўкі (альт), а 26 студзеня пакажуць сваё майстэрства скрыпачы, якіх вучыла і вучыць Л.Умнова. Таксама ў Камернай зале 23 студзеня адбудзецца фартэпіянны канцэрт, выканаўца — С.Мікулік, у праграме творы Брамса і Шапэна.

## Канцэрты, дыскатэкі

Новую праграму прэзентуе гурт *NRM* на канцэрце, які адбудзецца 23 студзеня а 19-й гадзіне ў Палацы культуры прафсаюзаў. Квіткі каштуюць 400 тысяч рублёў.

Клуб *Cosmopoliten* запрашае 24 студзеня на канцэрт гуртоў «Муха» і *Spoonful*. Там вас чакае «блюз, які ён ёсць ці якім ён павінен быць». Кошт квіткоў 150 тысяч рублёў, пачатак а 18-й гадзіне.

У маладзёжным слэнгу замест слова «класічны» кажуць «культавы», але сэнсу гэта не мяняе. Дык вось менавіта культавым (я хачу сказаць – класічным) заходнім гуртам будуць прысвечаныя дзве бліжэйшыя вечарынкі ў клубе «Альтэрнатыва». 23 студзеня імпрэза будзе называцца *Open the DOORS* (22:00 - 6:00, кошт квітка – 500 тысяч рублёў), а 30 студзеня ў праграме «Ідалы электроннай сцэны» гаворка пойдзе пераважна пра *Depeche Mode*. І каштаваць гэта будзе даражэй: 600 тысяч з флаерам (запрашэннем) і 900 тысяч без яго.

## Гастролі

23 студзеня ў канцэртнай зале «Мінск» выступіць легендарны спявак Аляксандр Дольскі (Санкт-Пецярбург). Квіткі каштуюць 500 тысяч – 1 мільён 200 тысяч рублёў, пачатак а 19-й гадзіне.

У Доме афіцэраў 2 лютага выступіць народная артыстка Расіі Таццяна Васільева. Разам з двума партнёрамі яна разыграе перад мінскай публікай лірычную камедыю «Фанданга». Кошт квіткоў – ад 800 тысяч да 2 з паловай мільёнаў рублёў, пачатак – таксама а 19-й.

Чуткі пра тое, што ў Мінску выступіць абаяльны хуліган Гарык Сукачоў, маюць пад сабою рэальную аснову. Праўда, не кожнаму давядзецца пабачыць яго на канцэрце, які пройдзе 23 студзеня ў 23:00 у начным клубе «Макс-шоу»: адзін квіток каштуе больш за 10 мільёнаў. Не сумуйце, калі вы не можаце заплаціць такія грошы за квіток на любімага Сукачова, нам з вамі яго і па тэлевізары часта паказваюць.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

**30 СУБОТА**

**БТ**
**07.00** Доброе утро, Беларусь! **08.00** Континент. **08.15** Столица. **08.40** Потребительская корзина. **09.00** Новости. **09.15 «Змеиный источник».** Х/ф. **10.45** Здоровье. **11.10** Вершина мира. **11.35** Компьютерный полигон. **12.00** «Все нормально, мама!» **12.35 «Легенда о Вильгельме Телле».** **13.30** Мини-футбол. Кубок Беларуси. **14.25** Олимп. **15.00** Новости. **15.10** Уроки Н.Новожиловой. **15.35** Приглашаем на вечорки. **16.10** Познай себя. **16.30** Бон тон. **17.00** «Это моя работа». **17.30 «Успех».** Х/ф. **19.00** Творческий вечер пианиста Аркадия Эскина. **19.40** «Из достоверных источников». **20.05** Бездельник. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.40** Спортлото. **21.50 «92 градуса в тени».** Х/ф. **23.20** Белорусский хит-парад. **23.35** Видимо-невидимо. **00.15** Хоккей. Чемпионат Восточно-Европейской лиги. «Полимир» (Новополоцк) — «Беркут-ПВО» (Киев).

**ОРТ**
**06.50 «Легкая жизнь».** Х/ф. **08.30** Домашняя библиотека. **08.45** Слово пастыря. **09.00, 14.00, 17.00** Новости. **09.15** «Ералаш». **09.45** «Утренняя почта». **10.20** «Каламбур». **10.50** Смак. **11.10** Возвращение Третьяковки. **11.35** «Песня года.» **12.35 «Город принял».** Х/ф. **13.55, 01.00** Программа передач. **14.15** «Цивилизация». **14.50** В мире животных. **15.30** Умники и умницы. **15.55 «Бременские музыканты».** **16.15** Как это было. **17.15** «Белый попугай». **17.55** Погода. **18.00** «Ералаш». **18.20 «Человек в железной маске».** Х/ф. **20.00** Время. **20.50 «Секретные материалы».** **22.30** Новости спорта. **22.45 «Мыс страха».** Х/ф. **01.00** Программа передач.

**РОССИЯ**
**07.00 «Чужие дети».** Х/ф. **08.10** Мультфильм. **08.20** Прогноз погоды. **08.30** Мультфильмы. **09.00** Доброе утро, страна. **09.50** «Сто к одному». **10.30** Любовь с первого взгляда. **11.00** Подиум д'арт. **11.30** Домашние хлопоты с Натальей Варлей. **12.00 «Неделя в Санта-Барбаре».** **13.00, 19.00** Вести. **13.30** Фигурное катание. Чемпионат Европы. **14.55** 50 x 50. **16.00** «Федеральной службе по телевидению и радиовещанию — 5 лет». Праздничный концерт. **17.00** Моя семья. **18.00** «Площадь звезд-99». **19.35** Праздничный концерт, посвященный Дню работника российской прокуратуры. **21.15 «Мутанты».** Х/ф. **23.05** Фигурное катание. **00.25** Скорость. **00.40** Прогноз погоды.

**КУЛЬТУРА**
**09.00, 20.50** Программа передач. **09.10** «Читая Библию». **09.20** «Дворянские гнезда». **09.45 «Жила-была девочка».** Х/ф. **10.55** Парадоксы истории. **11.25** «Наобум». **11.55** «Тот, кого люблю». **12.40** XX век в кадре и за кадром. **13.29** Азбука. **13.30, 21.00** Новости культуры. **13.45** «Память о великом человеке». Д/ф. **14.15** Книжный кладезь. **14.30** «Танго со смертью». Театр-кабаре «Летучая мышь». **16.05** «Очевидное — невероятное». **16.30** «Открытие таланта». **17.00** Новости. **17.05** «2003». **17.10** «Тайны портретного фойе». **17.35** Международное обозрение. **18.15** «Судьба, судьбою, о судьбе». **19.15** Пушкин без границ. **19.55** Чудо-сказка. **20.05** Мультфильм. **20.25** «15-й подъезд». **20.59** Азбука. **21.20 «Ностальгия».** Х/ф. Ч.1-я. **22.20** «Джаз в академическом зале». **22.50** Блеф-клуб.

**НТВ**
**07.00** Мультсериал **«Битлджус».** **07.25 «Зима в Простоквашино».** **07.40 «Два долгих гудка в тумане».** Х/ф. **09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня. **09.15** «Чистосердечное признание». **09.45** Впрок. **10.00** «Пойми меня». **10.30** «Старый телевизор». **11.15** Профессия — репортер. **11.30** Своя игра. **12.00** Хоккей. ЦСКА (Москва) — «Северсталь» (Череповец). **14.30** «Русский век». **15.20 «Она написала убийство».** Х/ф. **16.15** Суд идет. **17.00** Дог-шоу. **17.30** Герой дня без галстука. **18.40 «Никаких проблем».** Х/ф. **20.30** «Итого». **21.40 «Американский дедушка».** Х/ф. **23.00** «Про это».

**НТВ+**
**НАШЕ КИНО**
**09.00 «Золотая мина».** 2-я с. **10.10** Кино. Между прошлым и будущим. **10.25 «Ключ без права передачи».** **12.00 «Опасно для жизни!»** **13.30 «Иностранцы».** **13.50 «Выйти замуж за капитана».** **15.15 «Кубанские казаки».** **17.00 «Подранки».** **18.30 «34-й скорый».** **19.50 «Старики-разбойники».** **21.20 «Прости».** **22.40** Завтра в программе.

**МИР КИНО**
**09.30** Сегодня в программе. **09.35 «Город удовольствий».** Д-13. **11.45 «Неспящие в Сиэтле».** Д-13. **13.30 «На плаву».** Д-13. **15.00 «Лезвие бритвы».** Д-13. **17.05 «Жил-был полицейский».** Д-13. **18.30 «Виновные».** 3-я с. Д-17. **19.20** К 70-летию премии «Оскар». Русская коллекция. **20.25 «Наглец Бомарше».** С. **22.05 «Мама и папа, спасите мир».** Д-13. **23.40 «Мистер Джонс».** Д-13.

**СПОРТ**
**08.00** Новости. **08.10, 11.00** Аэробика. **08.35, 14.10** Урок настольного тенниса. **08.50** Шахматы. **09.20** Неделя НХЛ. **10.20** «Щит и мяч». **10.50** Новости. **11.25** Личный чемпионат мира по мотогонкам на льду. «Гран-при России». **14.00** Новости. **14.25** Ретроспектива финалов Кубка Стенли. **17.00** Новости. **17.10** Программа передач. **17.20** Американский футбол. **18.00** Фигурное катание. **20.00** Большой ринг. **21.25** Спорткоктейль. **21.55** Футбол. Чемпионат Испании. **23.50** Шахматы.

**8-й канал**
**15.00** Джойс Майер «Жизнь в слове». **15.30** Музыкальная программа. **16.00 «Алиса и букинист».** Х/ф. **17.45** «Надеющийся да не погибнет». **18.45** Мультпланета. **19.45 «Леди-дракон».** Х/ф. **21.15** Вечарніца. **21.30** Актер Шон Коннери. **21.45 «Никогда не говори никогда».** Х/ф.

**31 НЯДЗЕЛЯ**

**БТ**
**07.00** Доброе утро, Беларусь! **08.00** «Города мира». Д/ф. **08.30** «Сколько нас в Беларуси». **08.40** Потребительская корзина. **09.00** Новости. **09.10** «Все дело в шляпе». **09.35** «Навстречу». **09.50** Мультфильм. **10.10** Туробъектив. **10.35** «Все нормально, мама!» **11.10** Международные спортивные новости. **11.30** Арсенал. **11.55** Сделано в Беларуси. **12.10** Марсово поле. **12.25** «АРТ-клуб». **12.50 «Легенда о Вильгельме Телле».** **13.45** Сельчане. **14.10** «Важная фига». Телеспектакль па рассказам Ядвигина Ш. **14.30** Станция «Академия наук». **15.00** Новости. **15.10** «Мисс «Силач-98». **15.50** «На волне взаимопонимания». **16.30** Зорная ростань. **17.00** Телебарометр. **17.20 «Миллион — одному».** Х/ф. **18.55** Теленавигатор. **19.15** Стадион. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** «Карамболь». **21.25 «Генеалогия преступления».** Х/ф. **23.15** Премьера песни. **23.25** Автопарк. **23.35** Вольная борьба.

**ОРТ**
**07.00 «Штепсель женит Тарапуньку».** Х/ф. **08.15** Мультфильм. **08.30** «Русалочка». **09.00, 14.50** Новости. **09.15** «Непутевые заметки». **09.30** Пока все дома. **10.05** Утренняя звезда. **11.00** Армейский магазин. **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** Крестьянские ведомости. **12.30** «Все путешествия команды Кусто». **13.25** Смехопанорама. **13.55** Футбол. Кубок чемпионов стран Содружества-99. **15.55** «Тимон и Пумба», «Аладдин». **16.50** Клуб путешественников. **17.35** Погода. **17.40** «Колесо истории». **18.30 «За двумя зайцами».** Х/ф. **20.00** Время. **20.35 «В смертельной зоне».** Х/ф. **22.25** Футбольное обозрение. **22.55** Новости культуры. **23.15 «Поющие под дождем».** Х/ф. **01.00** Программа передач.

**РОССИЯ**
**07.00** Мультфильмы. **07.25** Прогноз погоды. **07.30** Служу Отечеству! **08.00** «Сказка о мертвой царевне и о семи богатырях». **08.30** Почта РТР. **09.00** Доброе утро, страна. **09.30** Сам себе режиссер. **10.05** «Аншлаг». **11.00** Русское лото. **11.40** Мир книг с Леонидом Куравлевым. **12.00 «Неделя в Санта-Барбаре».** **13.00** Вести. **13.30** Федерация. **14.10** Парламентский час. **15.15** Папа, мама, я — спортивная семья. **16.00** Диалоги о животных. **17.00** Фигурное катание. **19.00** Зеркало. **19.55 «Американская дочь».** Х/ф. **21.40** «Перпендикулярное кино». **22.40** Дежурная часть. **23.05 «Элемент преступления».** Х/ф. **00.50** Прогноз погоды.

**КУЛЬТУРА**
**09.00, 23.25** Программа передач. **09.05** Погода. **09.10** «Читая Библию». **09.20** Консилиум. **09.45 «Приключения Тома Сойера».** Х/ф. **11.05** В тридевятом царстве. **11.30** Мультфильм. **11.45** Московская осень-XX. **12.30** А.Платонов. «В прекрасном и яростном мире». **13.00** «Спортивные встречи». **13.30, 21.00** Новости культуры. **13.45 «Свинарка и пастух».** Х/ф. **15.10** Маргит. **15.30** «А прошлое кажется сном...» **15.55** «1000 и одна ночь». **17.00** Новости. **17.05** «2003». **17.10** Телевидение — любовь моя. **18.00** «Судьба, судьбою, о судьбе». **19.00** Чудо-сказка. **19.15** Мультфильм. **19.30** Pro memoria. **19.45** «Сильфида». Королевский Датский балет. **20.59** Азбука. **21.20 «Ностальгия».** Х/ф. Ч.2-я. **22.20** «Золотая ветвь». **22.50** «Вокзал мечты».

**НТВ**
**07.00 «Я, бабушка, Илико и Илларион».** Х/ф. **08.30** «Старый телевизор». **09.00, 11.00, 15.00** Сегодня. **09.15 «Американский дедушка».** Х/ф. **10.35** «Боцман и попугай». **11.15** Большие деньги. **11.40 «Трое в лодке, не считая собаки».** Х/ф. **14.00** Жизнь замечательных зверей. **14.30** «Русский век». **15.20** «Ключи от форта Байяр». **17.00** Итоги. Предисловие. **17.40** «Без компромиссов». Х/ф. **19.45** Куклы. **20.00** Итоги. **21.00 «Ее звали Никита».** **22.00** Итоги. Ночной разговор. **22.30 «Дюна».** Х/ф.

**НТВ+**
**НАШЕ КИНО**
**09.00 «Подранки».** **10.35 «34-й скорый».** **11.55 «Старики-разбойники».** **13.20 «Ожерелье для моей любимой».** **14.30 «Красная палатка».** 2 серии. **17.00 «Семь невест ефрейтора Збруева».** **18.35 «Из жизни отдыхающих».** **19.55 «Аплодисменты, аплодисменты...»** **21.10 «Про уродов и людей».** **22.40** Завтра в программе.

**МИР КИНО**
**09.30** Сегодня в программе. **09.35 «Лезвие бритвы».** Д-13. **11.40** К 70-летию премии «Оскар». Русская коллекция. **12.40 «Наглец Бомарше».** С. **14.20 «Мистер Джонс».** Д-13. **16.10 «Мама и папа, спасите мир».** Д-13. **17.45 «Виновные».** 4-я с. Д-17. **18.40 «Моя девочка».** Д-13. **20.20 «Ключи к свободе».** Д-17. **21.55 «Дракула».** Д-17. **00.00 «Жидкие сны».** Д-17.

**СПОРТ**
**08.00** Спорткоктейль. **08.30, 11.00** Аэробика. **08.55** Футбол. Чемпионат Испании. **10.50** Новости. **11.25** Личный чемпионат мира по мотогонкам на льду. «Гран-при России». **14.00** Новости. **14.10** Шахматы. **14.40** «Горячий песок». **15.25** Футбол. Чемпионат Италии. **17.20** Новости. **17.30** Программа передач. **17.35** «Спорт и...» **17.55** Футбол. Чемпионат Англии. «Арсенал» - «Челси». **20.00** Еще неделя позади... **20.55** Хоккей. «Монреаль Канадиенс» - «Питтсбург Пингвинз». Во втором перерыве (**22.30**) Новости. **23.30** Шахматы. **00.00** Тайский бокс. **00.55** Американский футбол.

**8-й канал**
**15.00** Программа Рика Реннера. **15.30 «Маленький лорд Фаунтлерой».** Х/ф. **17.00** Мультпланета. **18.30** Телемагазин. **19.00** Музыкальная программа. **21.15** Вечарніца. **21.30** Новости «К-видео». **22.00 «Убийцы по контракту».** Х/ф.





# Пробны шлюб

*Колькасць незарэгістраваных шлюбных пар у ЗША ў 70-80-х гадах патроілася, а на пачатку 90-х падскочыла ўдвая*

Падобная тэндэнцыя назіраецца ў Скандынавіі і большасці краінаў Заходняй Еўропы. Людзі разглядаюць сумеснае дашлюбнае жыццё як выпрабавальны тэрмін, які служыць для праверкі і скасавання няўдалых саюзаў да афармлення шлюбу. У апытанні, праведзеным сярод 300 тысяч амерыканскіх першакурснікаў каледжаў, 51% з іх пагадзіўся, што да шлюбу варта пажыць разам.

Аднак такая «практыка» сямейнага жыцця не гарантуе ад памылак і няшчасця ў «сапраўдным» шлюбе. Даследаванні паказалі, што сярод пар, якія не жылі разам да шлюбу, у параўнанні з парамі, якія мелі такі вопыт, колькасць разводаў значна меншая. Апытанні 13 тысяч дарослых засведчылі, што верагоднасць развесціся на працягу першых пяці гадоў сямейнага жыцця сярод пар, якія да шлюбу жылі разам, на адну трэць большая. Апытанне ў Канадзе 5.300 жанчын выявіла, што верагоднасць развесціся на працягу наступных 15 гадоў пасля шлюбу сярод тых, хто да шлюбу жыў разам, большая аж на 54%. Аналагічнае апытанне жанчын у Швецыі падняло гэтую лічбу да 80%.

Чаму такі добры вопыт не ідзе на карысць? Магчыма, людзі, якія мелі вопыт сужыцельства, і пазней больш схільныя да пазашлюбных палавых адносінаў, што можа лёгка разбурыць шлюб. Ці людзі, якія жывуць разам да шлюбу, у меншай ступені прызнаюць інстытут шлюбу? Таму лепш, калі выпрабавальны тэрмін цягнецца ўсё жыццё.

**Б.П.**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 450 Нумар падпісаны ў друк 21/01/99 (15:00) Наклад — 22.120